Гродна
№13 (448),
26 чэрвеня 2016

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

www.slowo.grodnensis.by



*У пачатку ліпеня тысячы вернікаў з розных куткоў Гродзенскай дыяцэзіі накіроўваюцца ў Тракелі, каб ушанаваць цудатворны абраз.*













## ЗАПРАШАЕМ НА ЎРАЧЫСТАСЦІ Ў ТРАКЕЛЯХ

● працяг на с. 4

### Каляндар падзей

***29 чэрвеня***
*Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла.*

***30 чэрвеня***
*Заканчэнне чэрвеньскага набажэнства.*

***8–9 ліпеня***
*Урачыстасць Наведзінаў НПМ у дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях.*

***11 ліпеня***
*Свята св. Бенедыкта.*

***16 ліпеня***
*Гадавіна мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і ваколіц.*

***24 ліпеня***
*Асвячэнне транспартных сродкаў з нагоды ўспаміну св. Хрыстафора, заступніка вадзіцеляў.*

***25 ліпеня***
*Свята св. Якуба.*

***6 жніўня***
*Свята Перамянення Пана.*

### Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***
*За людзей старэйшага пакалення, каб мелі неабходную пашану ў нашым грамадстве. Аб узрастанні клопату пра пакінутых і хворых людзей. Аб аказанні ім магчымай дапамогі з боку веруючых людзей і касцёльных устаноў.*

***Жнівень***
*Аб цвярозасці ў нашым грамадстве. За разбітыя і знявоЛеныя хваробай алкагалізму сем'і. Аб развіцці ў парафіях пастарскай дзейнасці над ратаваннем залежных людзей.*

### Інтэрнэт-апытанне (www.grodnensis.by)

***Ці прымеце Вы ўдзел ва ўрачыстасці Маці Божай Тракельскай?***

- *так, прыйду ў пешай пілігрымцы*
- *так, прыеду веласіпедам*
- *так, прыеду аўтобусам*
- *так, прыеду аўтамабілем*
- *не, не маю транспартных сродкаў*
- *не, мне не хапае часу*
- *не, далёкая і складаная дарога*
- *цяжка сказаць*

выкажыся 

### Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 2 жніўня ў 19.45, паўтор – 3 жніўня ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Каб сустрэць Бога, мы павінны быць на нагах і ў хадзе". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XIII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Лк 9, 51–62**

Калі набліжаліся дні ўзнясення Езуса, Ён цвёрда вырашыў ісці ў Ерузалем і выслаў пасланцоў перад сабою. Пайшоўшы, яны ўвайшлі ў самаранскую вёску, каб падрыхтаваць Яму побыт. Але там не прынялі Яго, бо Ён накіроўваўся ў Ерузалем. Калі вучні Якуб і Ян убачылі гэта, сказалі: "Пане, хочаш, мы скажам, каб агонь сышоў з неба і знішчыў іх?". Але Ён, павярнуўшыся да іх, забараніў ім. І пайшлі ў іншую вёску. Калі яны былі ў дарозе, хтосьці сказаў Яму: "Я пайду за Табою, куды б Ты ні пайшоў". Езус сказаў яму: "Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя – гнёзды, а Сын Чалавечы не мае, дзе схіліць галаву". А другому сказаў: "Ідзі за Мною". Той адказаў: "Пане, дазволь мне спачатку пайсці і пахаваць айца майго". Але Езус сказаў яму: "Пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых, а ты ідзі і абвяшчай Валадарства Божае". Яшчэ іншы сказаў: "Я пайду за Табою, Пане, але спачатку дазволь мне развітацца з хатнімі маімі". Езус жа сказаў яму: "Ніводзін, хто паклаў руку сваю на плуг і азіраецца назад, не надаецца да Валадарства Божага".

## ВЕРА І ВОЛЬНАСЦЬ

"Дазволь мне пахаваць айца майго". Некаторыя экзэгеты тлумачаць: "дазволь мне захаваць айца, апекавацца ім да смерці". Наступная ўмова ўжо больш суровая. Але і тут адказ не пакідае сумненняў: у абвяшчэнні Божага Валадарства гаворка ідзе пра справу найважнейшую, неадкладную. Калі хтосьці яе зразумее, то ўсе сілы, усяго сябе ён уключыць у яе здзяйсненне. Рука, прыкладзеная да плуга, павінна падключаць таксама і зрок. Ён павінен быць накіраваны ў будучыню, ахоплены надзеяй. Мінулае ўжо не можа быць кропкай адліку. Крочанне за Езусам і далучэнне да абвяшчэння Яго Валадарства не прадугледжвае ніякіх выключэнняў і ваганняў.

### XIV НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Лк 10, 1–12, 17–20**

Пан прызначыў семдзесят двух іншых вучняў і паслаў іх па двое перад сабою ў кожны горад і месца, куды сам хацеў ісці. І сказаў ім: "Жніво сапраўды вялікае, а работнікаў мала, таму прасіце Гаспадара жніва, каб паслаў работнікаў на жніво сваё. Ідзіце, вось Я пасылаю вас, як ягнят сярод ваўкоў. Не бярыце ні машны, ні торбы, ні сандаляў і ў дарозе нікога не вітайце. У які б дом ні ўвайшлі, спачатку кажыце: «Спакой гэтаму дому!». І калі будзе там сын спакою, то на ім спачне ваш спакой. Калі ж не, то вернецца да вас. Заставайцеся ў тым доме, ешце і піце, што ёсць у іх, бо работнік заслугоўвае платы сваёй. Не пераходзьце з дому ў дом. І калі прыйдзеце ў які горад, і прымуць вас, ешце, што вам пададуць. І аздараўляйце ў ім хворых, і кажыце ім: «Наблізілася да вас Валадарства Божае». (...) Семдзесят два вучні вярнуліся з радасцю і казалі: "Пане, нават злыя духі слухаюцца нас у імя Тваё". А Ён казаў ім: "Я бачыў сатану, які падаў з неба, як маланка. Вось даю вам уладу наступаць на змеяў і скарпіёнаў, і на ўсю варожую сілу, і нішто не пашкодзіць вам. Аднак не радуйцеся таму, што духі слухаюцца вас, а радуйцеся таму, што імёны вашыя запісаны ў нябёсах".

## ЕВАНГЕЛЛЕ ПОЎНАЕ МОЦЫ

Ужо на самым пачатку былі вылучаны абяцанні, звязаныя з абвяшчэннем Добрай Навіны. Вучні ўражаны дзейснасцю сваіх слоў, падтрыманых імем Збаўцы: "Нават злыя духі слухаюцца нас!". Чаму ж Езус "астуджае" запал вучняў: "не радуйцеся таму..."? Ён паказвае, наколькі важнымі становяцца імёны тых, хто абвяшчае Евангелле: памяць аб іх дасягае неба! Іншымі словамі: важнейшай за перамогу над шатанам з'яўляецца прыналежнасць да Хрыста, бо з яе выцякае гэтая вялізная моц.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# Сустрэча з Маці

*Мы перажываем у жыцці розныя сустрэчы. Некаторыя з іх запамінаюцца надоўга, а іншыя хочацца сцерці з памяці як мага хутчэй. Сустрэчы, якія прыносяць радасць і добрую навіну, – найбольш пажаданыя для нас. І, у той жа час, ніхто б не хацеў сустрэч, падчас якіх пачуў бы дрэнныя весткі. Спатканні з Марыяй, нашай Маці, заўсёды жаданыя. Малое дзіця пастаянна хоча быць побач з мамай. І малады, і старэйшы чалавек памятае пра сваю маці, да якой заўсёды можа прыйсці. Бог дае нам Марыю, якая нас чакае. Летні час – выключная магчымасць сустрэцца з Ёю ў Будславе, Тракелях, Браславе, Лагішыне і ў іншых санктуарыях нашай краіны. Варта выкарыстаць нагоду і адправіцца на сустрэчу з Марыяй.*

Маці Божая на працягу ўсяго свайго жыцця крочыла за Езусам, заўсёды і ўсюды. Сёння чалавек сам выбірае сабе розныя дарогі, а жыццёвы GPS, на жаль, часта залежыць ад рэалій сучаснага свету, якія не заўсёды памятае пра свае хрысціянскія карані. Калі свет перастае слухацца голасу Езуса, пачынаецца трагедыя. На такім шляху чалавек перажывае розныя катастрофы. Марыя вучыць нас і заахвочвае слухаць Езуса, распазнаваць Яго голас у сённяшнім свеце, пераймаць Яго. Дзякуючы гэтаму мы становімся лепшымі, фарміруем сваю індывідуальнасць і аднаўляем любоў да Бога і бліжняга. Марыя дазваляе нам вызваліцца ад сардэчнай слепаты, ад цяжару сучаснасці.

У гэтым годзе, збіраючыся на сустрэчу з Марыяй, мы можам перажыць Дарогу Міласэрнасці. У Юбілейны год варта асаблівым чынам паклапаціцца аб чыстым сумленні, якое набліжае нас да сяброўства з Богам. Тамаш Кемпійскі добра раіць кожнаму з нас: "Хто ахінае любоўю Езуса, умацоўвае сябе навечна. Яго любі, Яго абяры сябрам. Калі ўсе цябе пакінуць, Ён застанецца з табою і ўрэшце не дасць загінуць". Марыя, наша Маці, таксама паклапоціцца пра нас, каб ніхто ў гэтым жыцці не згубіўся.

**Перажываючы 25-годдзе дыяцэзіі і Год міласэрнасці, мы становімся ўдзельнікамі вялікіх падзей. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды трымае нас пры сабе і дапамагае знайсці дарогу да Хрыста. З Марыяй мы крочым праз жыццё, памятаючы пра сваю душу, пра яе збаўленне. Быць побач з Маці Божай і разам з Ёй пераймаць Хрыста – найлепшы шлях да збаўлення, дарога ў дом Нябеснага Айца.**

ДЭКАНАТ ЛІДА

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***

# Ліда

# Фарны касцёл Узвышэння Святога Крыжа



*Знешні выгляд святыні*



*Галоўны алтар святыні*

Прывілей на заснаванне ў Лідзе парафіяльнага касцёла быў падпісаны каралём Ягайлам 17 ліпеня 1387 г. у лідскім замку. Але першы драўляны касцёл, пабудаваны на падзамчышчы, згарэў у 1392 г. падчас нападу крыжакаў. Адбудаваную святыню 3 чэрвеня 1397 г. асвяціў пад падвойным тытулам св. Францішка і Святога Крыжа першы віленскі біскуп Андрэй Васіла. Апекаваліся касцёлам францішканцы. У 1406 г. касцёл быў зноў спалены пры нападзе на горад смаленскага князя Юрыя Святаслававіча, а ў 1414 г. адноўлены і асвечаны пад трайным тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі, Усіх Святых і Святога Крыжа. У 1466 г. францішканцы пакінулі Ліду.

7 ліпеня 1616 г. фундуш лідскай Фары пацвердзіў кароль Жыгімонт І. Падчас "маскоўскага нашэсця" старажытная святыня была знішчана. Апошні драўляны будынак Фары быў узведзены намаганнямі кс. Рэбеўта і асвечаны ў 1674 г. біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім. У 1644 г. пры касцёле была заснавана альтарыя.

Касцёл пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа, які дзейнічае і сёння, быў пабудаваны ў стылі сталага барока біскупам Тамашам Зяньковічам за грошы, ахвяраваныя на гэтую мэту віленскім біскупам Міхалам Зяньковічам, ягоным дзядзькам. Будаўніцтва пачалося ў 1765 г. і скончылася ў 1770 г. Узвялі святыню ў самым цэнтры горада, трошкі далей ад таго месца, дзе стаяў драўляны касцёл, на цэнтральнай вуліцы – Віленскай (сёння вул. Савецкая). Стары драўляны касцёл па загадзе лідскага старасты і падстолія ВКЛ пана Сцыпіёна быў разабраны на матэрыял для гарадской уніяцкай царквы.

Касцёл уяўляе сабой трохнефную прамавугольную ў плане святыню з квадратнай апсідай, фланкаванай дзвюма нізкімі сакрыстыямі (прыбудаванымі пазней, разам з прытворам). Храм бязвежавы, паколькі трох'ярусныя вежы былі разабраны пасля пажару 1821 г. Галоўны фасад завершаны класічным трохвугольным франтонам з "Глорыяй". Алтарная сцяна апсіды раскрапавана пілястрамі на тры часткі, прычым цэнтральная мае сегментарную ў плане форму. Накрыты касцёл высокім чарапічным дахам з вальмамі над прэзбітэрыем, завершанымі невялікай сігнатуркай.

# Перажываць канікулы з Богам

*Напярэдзе час канікул – насычаныя сонцам і пазітыўнымі эмоцыямі дні заслужанага адпачынку. Карыстаючыся гэтым дарам, нельга забывацца аб захаванні адпаведных адносін да Пана Бога. Таму падчас летняга адпачынку кожны хрысціянін павінен памятаць аб штодзённай малітве, нядзельнай і святочнай св. Імшы, сакраманце пакаяння. Добрай нагодай, каб ажывіць, паглыбіць і ўмацаваць адносіны з Хрыстом у час канікул, будуць розныя пілігрымкі, рэкалекцыі і іншыя падзеі рэлігійнага характару.*



*Падчас канікул часта арганізуюцца канцэрты рэлігійнай музыкі, якія з'яўляюцца шляхам евангелізацыі і спосабам абвяшчэння Добрай Навіны*

Канікулы – такі чаканы час, калі пэўныя абавязкі можна адкласці на пазней і адпачыць ад бегатні і сотні паўсядзённых спраў. У гэты перыяд мы ўсё часцей звяртаем увагу на прапановы турыстычных агенцтваў, якія прывабліваюць прыгожымі відарысамі разнастайных куткоў свету. Задумваемся, што выбраць: адпачынак на моры, горныя сцежкі ці, можа, спакойны водпуск у бабулі на вёсцы. Аднак вельмі часта падчас прагляду турыстычных прапаноў, пакавання чамаданаў ды і падчас самога адпачынку мы спрабуем адсунуць Бога на далейшы план. Такім чынам канікулы становяцца часам, у якім выразна слабеюць рэлігійныя практыкі. Бог жа пачакае.

І Ён чакае… На лясных сцежках, на гладзі азёр, вяршынях гор, сонечных пляжах, у прыдарожных каплічках, вясковых касцёлах ці вялічных гарадскіх святынях. Канікулярныя прыгоды, шматлікія перажыванні, эмоцыі і прыгожыя краявіды ніяк не павінны аддаляць нас ад Бога, а зусім наадварот: кожная хвіліна радасці можа быць ахвяравана Пану. Гэты час – найлепшая нагода, каб захапляцца ўсім тым, што Ён стварыў, што існуе, дзякуючы Яму.

Канікулы могуць і павінны быць для хрысціяніна часам паглыблення веры ў Бога, часам, каб наладзіць бліжэйшыя адносіны з Хрыстом. Заахвочваюць нас і словы Бенедыкта XVI: "У свеце, у якім мы жывём, умацаванне цела і духу неабходнае, асабліва для тых, хто жыве ў горадзе, дзе ўмовы жыцця і яго нярэдка шалёны тэмп пакідаюць мала месца для сусішэння, рэфлексіі, расслабляльнага кантакту з прыродай. Канікулы – гэта таксама дні, калі можна прысвяціць больш часу малітве, чытанню адпаведнай літаратуры і роздуму над глыбокім сэнсам жыцця ў прыемнай атмасферы, якую стварае сямейнае жыццё і кантакт з самымі блізкімі".

Каб правесці канікулы сапраўды па-хрысціянску, дастаткова хацець гэтага і загадзя спланаваць свой адпачынак. Прапаноў вельмі шмат, кожны можа знайсці тое, што яму адпавядае: пешыя пілігрымкі, турыстычныя падарожжы ў санктуарыі і святыя мясцы, "Канікулы з Богам" для дзяцей і моладзі, што арганізуюцца пры парафіях, рэкалекцыі, канцэрты рэлігійнай музыкі і іншае. Падарожнічаючы па свеце, цешачыся сонцам і прыгажосцю краявідаў, можна наведаць старажытныя святыні, пры гэтым захоўваючы сувязь з імі гісторыі і не забывацца, што падчас канікул касцёлы не замыкаюць і там, як заўсёды, кожны дзень ёсць св. Імша, падчас якой можна сустрэцца з жывым Богам, адчуць Яго прысутнасць, нават калі набажэнства будзе адпраўляцца на чужой для нас мове. Паклапаціцца пра тое, каб Бог разам з намі "паехаў" на канікулы, а не чакаў нас дома ў адзіноце, можна таксама праз штодзённую малітву і ўдзячнасць Яму за кожны перажыты дзень, за людзей, якіх сустракаем на сваім шляху, і за хвіліны радасці, якія перажываем падчас доўгачаканага водпуску.

*Кінга Красіцкая*

**Каб лета не прайшло выключна дома на канапе ці ў сацсетках, прапануем Вам некалькі цікавых падзей:**

**1–2 ліпеня** – ўрачыстасці ў Будславе на тэму "Надзея ў Божай міласэрнасці", прысвечаныя 25-годдзю заснавання Мінска-Магілёўскай мітраполіі;
**4–9 ліпеня** – XVIII пешая пілігрымка Гродна – Тракелі;
**26–31 ліпеня** – XXXI Сусветныя дні моладзі ў Кракаве з удзелам Святога Айца Францішка;
**8–14 жніўня** – "Музычная майстэрня" ў Івянцы – мерапрыемства для ўсіх, хто ўмее спяваць, грае на музычных інструментах, а таксама тых, хто хоча раскрыць у сабе музычны талент;
**11–14 жніўня** – рэкалекцыі распазнання паклікання ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне;
**13–14 жніўня** – хрысціянскі музычны фестываль-конкурс "Laudato Si´" у Беразінскім.

***З цікавымі маршрутамі пілігрымак можна азнаёміцца на сайце piligrymka.by.***
***Інфармацыю пра важныя мерапрыемствы, урачыстасці і рэкалекцыі шукайце на сайтах grodnensis.by, catholic.by.***

Езус
Ты гэтым займіся!

## Малітва падчас канікул

**Навучы мяне, Пане, добра адпачываць і праводзіць вольны час. Прашу Цябе, каб я ўмеў бачыць хараство прыроды, прыгажосць жывёл, каб нанова навучыўся захапляцца навакольным светам, так як калісьці, калі я быў малым дзіцём. Пане, блаславі ўсіх, хто адпраўляецца на канікулы, каб яны добра правялі час. Дзякуй, што Ты не забываешся пра ўсіх тых, хто не можа нікуды паехаць з-за недахопу сродкаў ці ў сувязі з хваробай. Пане, змілуйся над намі і ўчыні, каб людзі былі добрымі адзін да аднаго. Дзякуй Табе, Пане.** *Амэн.*

# Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Шчасце, якога прагне кожны, можа быць выражана рознымі спосабамі і дасягнута толькі тады, калі мы здольны кахаць. Колькі інвалідаў і пакутуючых людзей наноў адкрываюцца на жыццё, як толькі разумеюць, што хтосьці іх любіць! І колькі любові можа выплываць з сэрца нават, хоць бы, праз адну ўсмешку! У той жа час і сама слабасць можа стаць суцяшэннем і падтрымкай для нашай адзіноты. Езус у сваіх пакутах палюбіў нас дарэшты (параўн. Ян 13, 1). Ён на крыжы аб'явіў Любоў, якая аддае сябе без межаў. Што мы можам прад'явіць Богу ў сувязі з нашымі слабасцямі і цярпеннямі, чаго б не было ўжо выбіта на абліччы Яго ўкрыжаванага Сына? Да фізічных пакут Езуса далучыліся здзекі, непрыняцце і пагарда, а Ён адказвае міласэрнасцю, якая прымае кожнага і прабачае ўсім. "Ранамі Яго мы аздароўлены" (Іс 53, 5; 1 П 2, 24). Езус – урач, які лечыць лякарствам любові, бо бярэ на сябе нашае цярпенне і збаўляе. Мы ведаем, што Бог здольны зразумець нашыя слабасці, бо Ён сам іх перажыў (параўн. Гбр 4, 15).*

*Тое, як мы перажываем хваробу і інваліднасць, з'яўляецца паказчыкам любові, якую мы гатовы ахвяраваць. Тое, як мы змагаемся з пакутамі і абмежаваннямі – крытэрыем нашай свабоды, каб надаць сэнс выпрабаванням жыцця, нават калі яны здаюцца нам абсурднымі і незаслужанымі. Таму не трэба турбавацца з-за гэтых нягод.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Юбілею хворых і інвалідаў*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Евангелле распавядае пра статак авечак і пастуха. Калі пастух заўважае, што на ноч не вярнулася адна авечка, то ён ідзе і шукае яе. Знайшоўшы, бярэ на свае плечы і з радасцю нясе дамоў. Мала таго, ён радуецца з іншымі, бо авечка, якая згубілася, знайшлася. Авечка – сацыяльная хатняя жывёла, і толькі будучы ў супольнасці яна адчувае сябе шчаслівай і бяспечнай. Падобна і з чалавекам: ён з'яўляецца сацыяльным Божым тварэннем, і толькі ў супольнасці з іншымі – бяспечны і шчаслівы.*

*Пастух з Евангелля – гэта Езус, які любіць кожнага. Заблукалая авечка – грэшны чалавек. Езус не пакідае яго аднаго, а шукае, каб дапамагчы. Ён таксама кажа, што ў небе будзе большая радасць з аднаго грэшніка, які навернецца, чым са ста справядлівых. Усё гэта нагадвае аб бязмежнай Божай міласэрнасці, аб тым, што ніхто не пазбаўлены Божай любові, за выключэннем тых, хто сам не хоча яе дасведчыць.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса*

# Учынак для душы бліжняга. Маліцца за жывых і памерлых




На першы погляд можа падацца, навошта маліцца за кагосьці, калі Бог у сваім Провідзе сам забяспечвае чалавеку найлепшы лёс? Але воля Усявышняга заключаецца ў тым, каб Яго дзеці любілі адзін аднаго. Малітоўная падтрымка выражае ўвагу і клопат пра бліжняга, неабыякавасць да яго жыцця. Гэта дазваляе ўбачыць блізкіх з той перспектывы, з якой іх бачыць Стварыцель.

Малітва – гэта выраз разумення, што над намі ёсць Бог, ад якога ўсё залежыць. Молячыся, мы прызнаём неабходнасць дапамогі з боку Таго, хто ведае, як будзе лепш, хто адорвае рознымі дабротамі і сам з'яўляецца Найвышэйшым Дабром, якое наталяе ўсе прагненні. Таму малітва так часта прыносіць палёгку, бо яна надзяляе пачуццём бяспекі: даверыны справы знаходзяцца ў руках Айца, які чувае над лёсам свету і кожнага чалавека. Вера падразумявае давер да таго, што міласэрны Бог падрыхтаваў для кожнага свой план, поўны любові і надзеі. Малітва ў пакоры азначае згоду на рэалізацыю гэтага плана.

У той жа час малітва не з'яўляецца ўцёкамі ад дзеяння ці нежаданнем супрацьстаяць нягодам. Яна не замяняе намагання зрабіць канкрэтны ўчынак. Малітва і дзеянне ўзаемна дапаўняюцца: адно прадугледжвае другое. Як гаварыў св. Ігнацый, "маліцеся так, быццам усё залежыць ад Бога, а рабіце так, быццам усё залежыць ад вас".

Малітвы бываюць розныя: праслаўлення, падзякі, адкуплення ці перапрашэння, а таксама просьбы. Вернік можа маліцца як асабіста ў цішыні свайго сэрца (індывідуальна), так і супольна з іншымі (праз імшальную малітву вернікаў, папскія інтэнцыі, Ружанец, Вяночак, навэнны і г. д.). Адрозніваюць таксама малітву "завучаную" і разумовую (разважанне, медытацыя, сузіранне). Да таго ж, існуе мноства дапаможных сродкаў, каб навучыцца добрай малітве: кнігі, артыкулы, школы малітвы, малітоўныя сустрэчы і рэкалекцыі.

Скіроўваючы малітвы да Бога, вернік кіруецца жаданнем дабра для бліжняга і клопатам аб яго збаўленні. Асаблівае вымярэнне мае спалучэнне малітвы з постам: той, хто моліцца і ахвяруе, носіць кагосьці не толькі ў сваім сэрцы ці розуме, але і ў целе.

Каб уявіць моц малітвы, дастаткова ўспомніць св. Моніку, якая на працягу многіх гадоў нястомна малілася за свайго сына, выпрошваючы для яго ласку навяртання. Сёння св. Аўгусцін – адзін з самых вядомых святых каталіцкага Касцёла.

Асаблівай духоўнай дапамогі патрабуюць душы, якія адышлі ў вечнасць і цяпер ужо нічым не могуць сабе дапамагчы. Молячыся ў інтэнцыі памерлых, вернікі выпрошваюць для іх даравання кар і грахоў, здзейсненых на працягу жыцця. Такая малітва становіцца выразам сувязі зямнога і нябеснага Касцёлаў. Яна адкрывае на дапамогу святых і блаславёных – тых памерлых, якія, з'яднаўшыся з Богам, заступаюцца за братоў, што жывуць на зямлі.

Сам Езус неаднойчы гаворыць, што просіць Айца за людзей. Перад Апошняй вячэрай Ён узносіць да Бога малітву за вучняў і за будучы Касцёл. "Не толькі за іх прашу, але і за тых, хто паверыць у Мяне паводле слова іхняга" (Ян 17, 20), – гучыць з вуснаў Пана.

Просячы дароў для іншых, мы, перш за ўсё, павінны прасіць у імя Езуса, г. зн. прагнучы таго, чаго хоча Ён. "Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі чаго ў імя Маё папросіце ў Айца, дасць вам" (Ян 16, 23), – гаворыць Хрыстос. Бо менавіта ў Ім знаходзіцца крыніца ласкаў, дзе адкрываецца струмень Божай міласэрнасці.



Калі б мы ведалі, як шмат залежыць ад гэтага акту міласэрнасці і колькі дабра можна праз яго выпрасіць для бліжніх, то маліліся б заўсёды, ва ўсіх сітуацыях размаўлялі з Богам.

*Ангеліна Пакачайла*



*Кс. Юрый Ясевіч*

*Як жа павінна выглядаць малітва за іншага чалавека? Найвялікшым дарам з'яўляецца святая Эўхарыстыя, дзе Хрыстос ахвяруе сябе за канкрэтную асобу, людзей. Прыдатныя традыцыйныя малітвы (Ружанец, Вяночак да Божай міласэрнасці, літаніі і інш.). Яны набліжаюць чалавеку супакой і шчасце. Таксама як і малітва сваімі словамі, што выплывае з сэрца. Важна, каб кожная малітва была свядомай. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на адпуст (даравання часовай кары за грахі). Ахвяруючы яго за іншага чалавека, неабходна быць у стане ласкі, вольным ад усякай прывязанасці да граху. Стараймася заўсёды памятаць пра тое, што праз малітву за бліжняга мы набліжаем яму шчасце!*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Малітоўная паслуга міласэрнасці з'яўляецца абавязкам кожнага верніка.*
2. *Малітва стварае духоўную прастору бяспекі, прыняцця, надзеі.*
3. *Малітва дапамагае ў складаных сітуацыях, па-людску часта безнадзейных.*
4. *Праз малітву чалавек аддае "кантроль над сітуацыяй" Богу.*
5. *Ні адна малітва не бывае не выслухана: Бог адказвае на іх найлепшым з магчымых спосабаў.*



◆ *14 чэрвеня быў прадстаўлены ліст Кангрэгацыі веравучэння да біскупаў каталіцкага Касцёла "Iuvenescit Ecclesia" ("Касцёл, які маладзее"). Яго тэмай з'яўляюцца часта далікатныя адносіны паміж касцёльнымі рухамі, харызматычнымі супольнасцямі і іерархіяй. У дакуменце рэкамендуецца, каб харызматычныя рухі знаходзіліся пад больш пільным кантролем біскупаў. Ардынарыі абавязаны старанна і ўважліва даследаваць усе прыватныя аб'яўленні, аб якіх паведамляюць члены харызматычных рухаў.*

◆ *Згодна з жаданнем папы Францішка, Кангрэгацыя Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў апублікавала дэкрэт, у якім дзень успаміну святой Марыі Магдалены стане святам. Дакумент падкрэслівае, што "гэтае рашэнне ўпісваецца ў актуальны касцёльны кантэкст, які патрабуе глыбей засяродзіцца над годнасцю жанчыны, новай евангелізацыяй і веліччу таямніцы Божай міласэрнасці". Свята будзе адзначацца 22 ліпеня – у дзень, калі да гэтага часу ўспаміналася святая Марыя Магдалена.*

◆ *Папа Францішак абвясціў святым блаславёнага Станіслава Папчынскага, які быў знакамітым прапаведнікам, знаўцам духоўнага жыцця, выкладчыкам рыторыкі і пісьменнікам. Падчас беатыфікацыйнага працэсу айца Папчынскага Касцёл прызнаў цуд уваскрашэння дзіцяці, якое памерла ва ўлонні маці. Дзякуючы гэтай падзеі, сваім апекуном айца Станіслава Папчынскага выбралі абаронцы жыцця. Аб яго заступніцтве просяць таксама сужэнцы, якія маюць цяжкасці з зачаццем дзіцяці. Перад кананізацыяй касцёл прызнаў цуд надзвычайнага аздараўлення жанчыны, якая была заражана сэпсісам.*

◆ *У жніўні ў Манголіі ўпершыню адбудуцца святарскія пасвячэнні. Іх з рук біскупа Венсэслао Падзільі прыме дыякан Ёзэф Энк. Ён будзе першым мангольскім святаром на тэрыторыі апостальскай прэфектуры Улан-Батар. На сённяшні дзень усе святары і кансэкраваныя асобы, якія служаць у Манголіі, паходзяць з-за мяжы. Дарэчы, Касцёл у гэтай краіне налічвае 919 вернікаў, засяроджаных у 6-ці парафіях. Душпастарскую паслугу выконваюць 17 святароў, сярод якіх толькі 3 дыяцэзіяльных ксяндза. У Манголіі пражывае прыблізна 3 мільёны чалавек. Паводле апошніх падлікаў, каля 40% з іх – атэісты.*

◆ *Ідзе праца над другой часткай шырока вядомага фільма пра Езуса пад назвай "Мукі Хрыстовы". Па словах рэжысёра Мэла Гібсана, "праект занадта масштабны, каб яго можна было ўтаіць". Праца карціны знаходзіцца на этапе напісання сцэнарыя. Як сцвярджае сцэнарыст Рэндалл Уоллес, "«Мукі» – гэта толькі пачатак. Яшчэ шмат чаго можна сказаць. Гэта будзе вялікая і святая справа".*

*credo-ua.org; deon.pl; pch24.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# ЗАПРАШЭННЕ НА ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНУЮ ЎРАЧЫСТАСЦЬ
## У САНКТУРЫЙ МАЦІ БОЖАЙ КАРАЛЕВЫ НАШЫХ СЕМ'ЯЎ У ТРАКЕЛЯХ

**Паважаныя Святары і Манаскія Сёстры!**
**Узлюбленыя Вернікі Гродзенскай дыяцэзіі! Браты і Сёстры ў Хрысце Пану!**

**8–9 ліпеня запрашаю Вас на дыяцэзіяльнае свята ў санктуарый Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.**

"Марыя, дзякуем і давяраем!". Няхай гэтыя словы будуць дэвізам сёлетніх пілігрымак і перажывання дыяцэзіяльнага свята ў Тракелях. Падчас урачыстасці будзем дзякаваць Марыі за Яе мацярынскі клопат пра нашу дыяцэзію на працягу 25-ці гадоў яе існавання, давяраючы далейшы лёс нашага Касцёла Яе заступніцтву.

Запрашаю Вас у наш дыяцэзіяльны санктуарый асабліва на малітоўнае чуванне, якое распачнецца 8 ліпеня ў 21.00, і на пантыфікальную св. Імшу 9 ліпеня ў 10.00.

Давайце разам выпрошваць ля ног Тракельскай Каралевы Божага блаславення для Паўсюднага Касцёла, нашых сем'яў і ўсяго грамадства Беларусі.

*Ахінаю ўсіх сваёй малітвай і ад усяго сэрца блаславяю.*



***Аляксандр Кашкевіч,***
***Біскуп Гродзенскі***




## ПРАГРАМА СВЯТКАВАННЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ МАЦІ БОЖАЙ ТРАКЕЛЬСКАЙ
### 8–9 ЛІПЕНЯ

**Пятніца, 8 ліпеня**

**да 21.00** – прывітанне пілігрымаў;
**21.00** – Марыйны зварот;
– канферэнцыя на тэму "Юбілей 25-годдзя дыяцэзіяльнага Касцёла як час ласкі і даверу";
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту;
**22.30** – эўхарыстычная адарацыя *(святары, манаскія сёстры, сужэнцы, моладзь і дзеці);*
**23.30** – падрыхтоўка да св. Імшы;
**24.00** – св. Імша Пастэрка і працэсія з абразом Маці Божай.

**Субота, 9 ліпеня**

**02.00** – Ружанец з разважаннем Таямніц святла *(вернікі дэканата Радунь);*
**03.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці з разважаннямі *(вернікі дэканата Ліда);*
**04.00** – канцэрт праслаўлення для моладзі *(моладзевы гурт "OPEN");*
**05.00** – традыцыйныя спевы;
**06.00** – Гадзінкі ў гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны;
**07.00** – падрыхтоўка да св. Імшы;
**07.30** – св. Імша *(святары юбіляры і новапрэзбітэры);*
**09.00** – прэзэнтацыя аб дзейнасці дыяцэзіяльнага санктуарыя
– уручэнне ўзнагарод дабрачынцам і кіраўнікам пілігрымак;
**09.30** – падрыхтоўка да св. Імшы;
**10.00** – св. Імша, акт падзякі за юбілей дыяцэзіі і даручэнне яе ў апеку Найсвяцейшай Панне Марыі. Завяршэнне ўрачыстасці.

***Урачыстасці ў Тракелях адбываюцца ў пачатку ліпеня штогадова. У 1994 годзе біскуп Аляксандр Кашкевіч пастанавіў адзначаць свята цудатворнага абраза Маці Божай Тракельскай на дыяцэзіяльным узроўні. З 1998 года ў санктуарый пачалі ладзіцца пешыя пілігрымкі. Ад таго часу шматлікія вернікі традыцыйна вырушаюць у Тракелі, каб пакланіцца цудадзейнаму абразу.***

## ПІЛІГРЫМКІ 2016

**Гродна – Тракелі**
*Траса:* **Гродна – Азёры – Астрына – Забалаць – Пагародна – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 4 ліпеня ў 9.00 гадзін *(св. Імша ў касцёле св. Францішка Ксаверыя).*
*Адказны:* кс. Павел Салабуда, (8-029) 637-07-17.

**Навагрудак – Тракелі**
*Траса:* **Навагрудак – Бярозаўка – Ёдкі – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 6 ліпеня ў 9.00 гадзін *(св. Імша ў касцёле св. Міхала Арханёла).*
*Адказны:* кс. Юрый Жэгарын, (8-044) 552-21-99.

**Іўе – Тракелі**
*Траса:* **Дуды – Галімшчына – Геранёны – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 6 ліпеня ў 9.00 гадзін *(св. Імша ў касцёле Нараджэння НПМ).*
*Адказны:* кс. Ян Гавэцкі, (8-029) 632-21-79.

**Ашмяны – Тракелі**
*Траса:* **Ашмяны – Гальшаны – Жамыслаўль – Іўе – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 5 ліпеня ў 7.30 гадзін *(св. Імша ў касцёле свсв. ап. Пятра і Паўла ў Барунах у 14.00 гадзін).*
*Адказны:* кс. Ян Кузюк, (8-033) 682-21-61.

**Ваўкавыск – Тракелі**
*Траса:* **Ваўкавыск – Правыя Масты – Жалудок – Беліца – Ліда – Тракелі.**
*Пачатак пілігрымкі:* 4 ліпеня ў 8.00 гадзін *(св. Імша ў касцёле св. Вацлава).*
*Адказны:* кс. Юрый Садоўскі, (8-044) 480-50-21.

***Запісацца ў пілігрымку можна ў пробашчаў парафій.***

## ЗАПЛЕЧНІК ПІЛІГРЫМА

***Што ў сваім заплечніку павінен мець кожны пілігрым?***



• **Зручны абутак**
2-3 пары: красоўкі, басаножкі або сандалі, сланцы. Калі адна пара пачне націраць ногі, яе можна будзе замяніць на другую. Не рэкамендуецца браць з сабой новы абутак: ён яшчэ не разношаны, ногі да яго не прывыклі. Не зусім зручны абутак з тонкай падэшвай: падчас пілігрымкі даводзіцца ісці па розных дарогах, у тым ліку – з жвіровым пакрыццём.

• **Галаўны ўбор**
Капялюш, бейсболка, берэт, касынка. Найбольш прыдатны з пераліčаных – з палямі, таму што такі галаўны ўбор закрывае не толькі валасы і скуру галавы, але і твар (палі адкідваюць цень). Найлепшы варыянт – з ушытай сеткай, дзякуючы якой галава не перагрaецца.

• **Посуд**
Кубак, лыжка, талерка. Улічваючы паходныя ўмовы, рэкамендуецца браць з сабой небіткі посуд (пластмасавы, жалезны).

• **Медыкаменты**
Эластычны бінт, мазольны пластыр, лекі, звязаныя з індывідуальнымі хваробамі. Ферменты дапамогуць пры пераяданні, актываваны вугаль – пры атручванні. У аптэчцы кожнага павінны быць аналгетыкі, спазмалітыкі і сімптаматычныя прэпараты пры прастудзе. Не будуць лішнімі лекі супраць алергіі: звышадчувальныя рэакцыі арганізма могуць быць на што заўгодна і сустракаюцца ўсё часцей.

• **Сонцаахоўны крэм**
Крэм абараняе ад сонечнага выпраменьвання. Але неабходна быць пільнымі нават у пасмурныя дні: ультрафіялетавыя прамяні здольны пранікаць навват скрозь аблокі.

• **Непрамакальнае адзенне**
Дажджавік, вятроўка, воданепранікальная куртка і штаны. Кожны выбірае для сябе найбольш прыдатны варыянт. Часцей за ўсё пілігрымы карыстаюцца дажджавікамі: яны лягчэйшыя і не займаюць шмат месца ў заплечніку. Не будзе лішнім запасны камплект.

• **Палатка, спальнік, карэмат**
Усе гэтыя рэчы могуць спатрэбіцца для начлега. Не заўсёды пілігрым спыняецца ў доме, часам даводзіцца начаваць у касцёлах, спартыўных залах, дамах культуры і інш. У гэтых выпадках спатрэбіцца спальнік і карэмат. А калі прыпынак на вуліцы – палатка.

• **Прадметы асабістай гігіены**
Расчоска, зубная шчотка і паста, дэзадарант, хустачкі, вільготныя сурвэткі. два маленькія ручнікі. Можа спатрэбіцца мыла або антыбактэрыяльны гель, каб абмываць рукі перад прыёмам ежы падчас прыпынкаў у дарозе.

• **Малітоўнік, ружанец**
Памятаючы пра тое, што пілігрымка – гэта духоўнае паломніцтва, варта ўзяць з сабой рэлігійныя дапаможнікі для разважанняў аб Богу і сабе.

• **Грошы**
Яны спатрэбяцца на вяртанне дадому. Як правіла, пілігрымы ідуць у адзін бок – назад вяртаюцца на транспарце.

*У ідэале вага заплечніка не павінна перавышаць 10-15% ад цела пілігрыма.*

***Ангеліна Пакачайла***

# ПРАГРАМА ЎРАЧЫСТАСЦЕЙ МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ
## У ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫМ САНКТУАРЫІ Ў ГУДАГАІ 16 – 17 ЛІПЕНЯ



**18.00** – св. Імша і заканчэнне навэнны да Маці Божай Шкаплернай, прыміцыйная св. Імша а. Аляксандра Стокі OCD;

**20.00** – Крыжовы шлях на гудагайскай Кальварыі;

**23.15** – нешпары з разважаннямі аб Найсвяцейшай Панне Марыі;

**24.00** – працэсія са свечкамі, св. Імша, якую ўзначаліць кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB, начное чуванне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;

**08.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;

**09.30** – св. Імша на польскай мове;

**11.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці;

**12.00** – урачыстая адпуставая св. Імша, якую ўзначаліць кс. бп Аляксандр Кашкевіч, Юбілей 25-годдзя біскупскай сакры ардынарыя і заснавання Гродзенскай дыяцэзіі.

*У Год міласэрнасці ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі адчынены Святыя Дзверы.*

*Кожны вернік у стане асвячаючай ласкі можа прайсці праз брамы святыні і атрымаць поўны адпуст.*

*Начное чуванне ў гонар Маці Божай Шкаплернай пройдзе таксама ў касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вярэйках. Пробашч парафіі кс. Валерый Лісоўскі разам з вернікамі запрашаюць усіх жадаючых на супольную малітву.*

***Чуванне адбудзецца 16 ліпеня ад 20.00 да 8.00.***

*На наступны дзень падчас урачыстай св. Імшы ёсць магчымасць атрымаць адпуст.*




***У жыцці кожнага чалавека ёсць моманты, пра якія яму часам не хочацца ўспамінаць, а бывае, што пражытыя хвіліны жыцця навяваюць радасць…***

*У памяці паўстаюць дні майго дзяцінства. Прайшло яно ў г. п. Вялікая Бераставіца ля самага касцёла Перамянення Пана. Памятаю, я глядзела праз акно на касцёльную вежу і па-дзіцячы наіўна думала, што праз яе з неба спускаецца Бог. Штодня я ядналася з Ім у малітвах, якім мяне навучылі бацькі.*

*Узгадваецца вечар, калі я, шасцігадовая дзяўчынка, вярталася ад сяброўкі дамоў. На вуліцы гарэлі ліхтары. Раптам у рове, які быў ля самай касцёльнай агароджы, нешта заварушылася. Мяне агарнуў такі страх, што я нават не памятаю, як аказалася на тэрыторыі касцёла. Зачыніўшы брамку, думала, што гэта канец майго жыцця. У той момант мяне нібы нехта страсянуў. Погляд упаў на фігуру Хрыста. Мне здалося, што яна ажыла: вось-вось Езус падхопіць мяне сваімі распасцёртымі рукамі. Страх у адзін момант прапаў. Па целе пайшло цяпло, і на душы стала вельмі лёгка. Цяпер я разумею, што Бога трэба любіць усім сэрцам. Менавіта праз давер, па-дзіцячы чысты і наіўны, адчуваеш Яго ў сваім жыцці.*

*Успамінаю і той час, калі вера ў Бога забаранялася. Бераставіцкі касцёл, як і многія іншыя, быў зачынены. Я моцна верыла, што Госпад усемагутны і жыццё некалі зменіцца.*

*І праўда, мінуў час. Вернікі атрымалі магчымасць маліцца ў касцёле. Як казаў Ёган Готфрэйд Соймэ, “боль і радасць ляжаць у адной лупіне – іх мяшанка і ёсць людскі лёс”.*

*Я часта наведваю свае родныя мясціны. Душа радуецца ад таго, што існуе прадаўжэнне памяці продкаў, яднанне вернікаў праз малітву. Як і многія людзі, я ўдзячна Богу за тое, што ў парафіі ёсць такі пастар, як Вальдэмар Слота. За перыяд яго прабывання ў якасці пробашча бераставіцкага касцёла зроблена вельмі шмат. Вядома, заслуга парафіян неацэнная, аднак гаспадар і арганізатар тут ксёндз.*

*Пабудавана плябанія. Уладкаваны пакоі, класы для катэхетычнага навучання. Для моладзі каля касцёла зладжана валейбольная пляцоўка. З вуліцы і ўнутры касцёла зроблены рамонт. Заменены вокны, лаўкі. Усталяваны асвятленне святыні, абагрэў падлогі і касцёла, маніторы, электронныя званы. Мелодыя гадзінніка, здаецца, даносіць праз вежу ў неба ўсё, што адбываецца ў касцёле, каб анёлы там цешыліся. Сцежкі і пляц вылажаны тратуарнай пліткай. Ля фігуры Маці Божай струменіцца раднічок чыстай вады. Вакол касцёла парадак, прыгажосць і ўтульнасць.*

***…Душа чалавека жывіцца тым, з чаго цешыцца. Дык няхай душы людскія ніколі не чарсцвеюць і вечна радуюцца сапраўдным і ўзвышаным рэчам, дзякуючы такім пастарам, як Вальдэмар Слота і яму падобныя.***

***Данута Вуйцік-Шыдлоўская,***
***парафіянка касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў Рэплі***

---

***Ксёндз пробашч Здзіслаў Пікула служыць у дзятлаўскай парафіі зусім нядоўга: у жніўні споўніцца толькі два гады. За гэты невялікі прамежак часу напружанай святарскай працы ён заслужыў глыбокую павагу і любоў за тое, што сваім чулым сэрцам выпраменьвае святло, цяпло і ласку, дорыць людзям шчырую ўсмешку і любоў, цярпліва і настойліва вучыць любіць Бога і бліжняга.***

*Складаная, няпростая гэта справа – выхаваць вернікаў духоўна здаровымі і адказнымі. Ксёндз Здзіслаў здолеў стаць для нас добрым пастарам. Ён старанна вучыць ісці па шляху, які вядзе да паяднання з Богам, настаўляе няўмелых і падтрымлівае слабых, суцяшае засмучаных і наведвае хворых, бласлаўляе і моліцца за нас. Заўсёды падае прыклад глыбокай малітвы, мудрага слова і духоўнай моцы. Кожнае казанне пробашча насычана светлай любоўю да Бога, Радзімы, людзей. Словы святара напаўняюць нашыя сэрцы верай, надзеяй і любоўю да Пана Езуса Хрыста, за што мы яму вельмі ўдзячныя.*

*Наш пробашч – натура творчая, мэтанакіраваная. Усё ў яго атрымліваецца. Ён вельмі добры, чалавечны. З ім лёгка размаўляць. Інтэлігентны, мудры, справядлівы, цярплівы, старанны, безадказны, працалюбівы. Пад кіраўніцтвам пробашча праведзена вялікая работа па добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол плябаніі. Шмат сіл укладзена ім у рамонт касцёла, які раней зацягнуўся надоўга. Арганізаваны араторый, дзе з задавальненнем для вучобы, гульні і малітвы збіраюцца дзеці. Да іх ксёндз Здзіслаў адносіцца з павагай і трапятлівай любоўю.*

*А колькі мерапрыемстваў праведзена ў нашым касцёле! Яны не забудуцца, бо пакінулі ў сэрцах вернікаў глыбокі след. Урачыстасці з нагоды першага дня нараджэння араторыя, сакраманту канфірмацыі, урачыстасць у гонар Марыі Успамогі Хрысціян. Не так даўно ў касцёле прайшлі святыя місіі. А колькі задавальнення прынесла нам свята Нараджэння Хрыста! Падобнага мы ніколі раней не бачылі. Прыгожа і ўрачыста пробашч праводзіць хрышчэнне дзетак, удзяляе шлюб маладым. Увогуле, усё, што ладзіцца ў нашым касцёле, праводзіцца з вялікай любоўю і адказнасцю.*

*Трэба адзначыць таксама зладжаную работу святара і касцёльнага камітэта пры падрыхтоўцы і правядзенні свят, у штодзённым жыцці пры вырашэнні розных праблем. Хіба не ўдасца пералічыць усё, што праведзена і зроблена за такі кароткі час у нашым касцёле. А якія ў пробашча планы! Незразумела толькі, калі ён адпачывае.*

***Мы, вернікі, дзякуем Богу за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара нашага касцёла. Выказваем падзяку святару за распалены агонь веры, шчырую малітву, адкрытае сэрца і самаадданае служэнне Богу і людзям. Нізкі паклон за нястомную працу, духоўную апеку, шчырую малітву, цярплівасць, дабрыню і разуменне.***

***Спадзяёмся, што ксёндз Здзіслаў яшчэ доўга будзе выпраменьваць святло любові і саграваць цяплом усіх нас.***

***Няхай Ваш святарскі шлях, паважаны Ксёндз Пробашч, будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.***

***Удзячныя парафіяне з Дзятлава***




**CatholicNews.by**

### *На СДМ зарэгістравалася амаль 600 тыс. чалавек са 185-ці краін свету*

***Колькасць патэнцыйных удзельнікаў ужо стала рэкорднай. На папярэдніх фестывалі ў Мадрыдзе і Рыа-дэ-Жанейра рэгістраваліся адпаведна 420 і 355 тыс. чалавек.***

*Аднак у Кракаве чакаюць каля 1,5–2 млн. гасцей, паколькі большасць з іх папярэдне не праходзіць рэгістрацыю. Сярод зафіксаваных удзельнікаў – больш за 5 тыс. беларусаў.*

*Мерапрыемствы ў межах СДМ будуць праводзіцца, у асноўным, на польскай і англійскай мовах, але таксама і на нацыянальных мовах, у тым ліку на беларускай, рускай і украінскай. У апошні дзень ліпеня моладзь прыме ўдзел у св. Імшы, якую будзе цэлебраваць папа Францішак.*

---




### *Бенедыкт XVI адзначыць 65-годдзе святарскага пасвячэння*

***“Святарства – гэта не «проста функцыя», а сакрамант: Бог карыстаецца чалавекам, каб праз яго прысутнічаць сярод людзей і дзейнічаць на іх карысць”, – зазначыў Папа на пенсіі Бенедыкт XVI.***

*Урачыстая цырымонія з нагоды юбілею адбудзецца 28 чэрвеня 2016 г. у Клементыйскай зале Апостальскага палаца ў Ватыкане. У ёй прыме ўдзел Святы Айцец Францішак. Юбіляру будзе падаравана спецыяльнае выданне аб святарстве, падрыхтаванае да гэтай гадавіны.*

---




### *Святы Айцец прывітаў удзельнікаў маршу ў абарону жыцця*

***Папа Францішак выказаў задавальненне тым, што шматлікая колькасць людзей выйшла на вуліцы гарадоў Польшчы і іншых краін свету, каб абвяшчаць любоў да Божага стварэння.***

*Марш для жыцця ў Познані сабраў каля 5-ці тысяч чалавек. Вітаючы яго ўдзельнікаў, Пантыфік спаслаўся на дэвіз акцыі (“З сям’ёй найлепш”) і выказаў пажаданне, каб яны здолелі пераканаць многія асяроддзі ў тым, што кожнае зачатае дзіця – гэта непаўторны дар для сям’і і грамадства. Акрамя таго, заахвоціў папулярызаваць сапраўдныя людскія, маральныя і духоўныя каштоўнасці ў абароне чалавека і сям’і, а асабліва шанаваць жыццё ад яго зачацця да натуральнай смерці.*

***Кінга Красіцкая***

## Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB удзяліў сакрамант канфірмацыі ў Смаргоні

***Сакрамант хрысціянскай сталасці ў парафіі св. Міхала Арханёла прынялі 129 чалавек.***



У гаміліі біскуп падкрэсліў, што ў сучасным свеце вельмі важна быць рыцарам Езуса, які заўсёды гатовы аддаць за Яго жыццё. Іерарх заклікаў прысутных быць адважнымі сведкамі сваёй веры, несці яе з радасцю і перадаваць іншым.

Напрыканцы св. Імшы вернікі падзякавалі кс. б-пу Аляксандру Яшэўскаму за ўдзелены сакрамант, а таксама выказалі шчырую ўдзячнасць пробашчу кс. Алегу Жураўскаму SDB, кс. Аляксандру Пятровічу і с. Ірыне Барцэвіч FMA, якія рыхтавалі іх да сакраманту канфірмацыі, духоўна суправаджалі і падтрымлівалі.

## У Іўі ўшанавалі св. Антонія з Падуі

***У гонар святога 12 чэрвеня ў парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла прайшла адпуставая ўрачыстасць.***



Вітаючы ўсіх, хто прыбыў на літургію, пробашч парафіі кс. Ян Гавэцкі зазначыў, што культ св. Антонія ў парафіі жывы: вернікі часта ў розных патрэбах звяртаюцца да святога, паколькі вераць у моц яго заступніцтва.

Св. Імшу ўзначаліў кс. Юрый Марціновіч. “Мы прыходзім у святыню, каб прасіць гэтага вялікага святога аб дапамозе не толькі тады, калі згубіцца наш партфель ці ключы, але і тады, калі губляюцца «рэчы» нашмат больш каштоўныя: такія, як вера, сэнс, любоў, надзея. Гэтыя справы святыя ведаюць найлепш”, – адзначыў у гаміліі святар.

Завяршылася ўрачыстасць эўхарыстычнай працэсіяй вуліцамі горада. Праз яе парафіяне засведчылі аб сваёй веры і прыналежнасці да Касцёла.

## Юбілей кс. Юзафа Занеўскага SDB адзначылі ў Смаргоні

***11 чэрвеня ў парафіі св. Міхала Арханёла адбыліся ўрачыстасці з нагоды 75-годдзя нараджэння і 50-годдзя манаскага жыцця першага салезіяніна ў сучаснай гісторыі Касцёла ў Беларусі. Св. Імшу ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч.***



Павіншаваць ксяндза Юзафа прыехалі святары не толькі з Беларусі, але і з Расіі. На ўрачыстасцях сабралася шмат прадстаўнікоў беларускай салезіянскай сям’і.

У гаміліі абп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў мужнасць кс. Юзафа Занеўскага і яго давер Богу. Іерарх падкрэсліў, што ў жыцці і служэнні гэтага святара сапраўды ажыццявіўся дэвіз св. Яна Боско: “Дайце мне душы, а ўсё іншае забярыце”. Мітрапаліт прыгадаў аб адданасці святара і яго гатоўнасці да нялёгкай працы адраджэння хрысціянскіх каштоўнасцей.

Святкаванне юбілею кс. Юзафа адбылося таксама ў Жупранах, дзе святар быў першым пробашчам у пасляваеннай гісторыі. Жупранскія парафіяне падрыхтавалі для ксяндза сардэчны прыём і ўрачыста ўвялі яго ў працэсіі ў парафіяльную святыню.

## “Канікулы з Богам” прайшлі ў лідскім фарным касцёле

***Адпачынак для дзяцей і моладзі ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа зладзілі сёстры назарэтанкі.***



Кожны дзень у хлопчыкаў і дзяўчынак распачынаўся св. Імшой і знаёмствам з новым святым. Такім чынам дзеці даведаліся пра св. Яна Паўла ІІ, св. Максімільяна, бл. Францішку Сядліскую, сясцёр мучаніц з Навагрудка, св. Айца Піо і св. апостала Барнабу. Далейшая праграма ўключала сняданак, танцы, гульні і іншыя цікавыя мерапрыемствы.

“Цэлы тыдзень Ліда грымела «крычалкамі» юных католікаў, – распавяла сястра Клара ад Святой Тройцы. – То тут, то там з’яўляўся доўгі паравозік з дхвухсот чалавек з прыгожымі сцягамі і хрысціянскімі дэвізамі. Нашыя дзеткі не саромеліся, а з радасцю і гонарам «евангелізавалі» лідчан”.

## 35-годдзе святарства кс. аб-па Тадэвуша Кандрусевіча адзначылі ў Адэльску

***13 чэрвеня Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі цэлебраваў у роднай парафіі св. Імшу з нагоды чарговай гадавіны святарскай паслугі.***



Эўхарыстыю канцэлебравалі з арцыпастарам дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB, ксяндзы прэлаты Андрэй і Юрый Стэцкевічы, якія ў гэтым годзе таксама адзначаюць 35-годдзе свайго прэзбітэрскага пасвячэння, і святары з навакольных парафій.

На пачатку Імшы Мітрапаліт выказаў удзячнасць сваім спачылым бацькам за перададзены Божы дар жыцця і каталіцкае выхаванне ў часы ганенняў, сваёй трагічна памерлай сястры – за добры прыклад жыцця паводле хрысціянскіх каштоўнасцей і імкнення да пастаўленай мэты. Іерарх таксама падзякаваў усёй адэльскай парафіі, дзе, па яго словах, усё распачалося, адкуль будучы арцыпастар пайшоў у жыццё.

Пасля Імшы на плошчы перад касцёлам адбылася традыцыйная эўхарыстычная працэсія. На заканчэнне Мітрапаліт пажадаў, каб адэльская парафія і надалей была “сведкай збаўчага Евангелля і бязмежнай Божай міласэрнасці”, а людзі, якія згубілі веру, знаходзілі яе тут.

## Смаргонская салезіянская парафія арганізавала летнік для дзяўчынак

***Удзельніцы дзіцячага хору з парафіі св. Міхала Арханёла правялі ў шчучынскім доме айцоў піяраў летні “адпачынак з Богам”.***



Летнік прайшоў пад назвай “Вясёлыя ноткі”. Удзельніцы па чарзе разважалі над нотамі і, ведаючы іх значэнне, спрабавалі злучаць іх з рознымі хрысціянскімі і чалавечымі якасцямі.

Дзяўчынкі штодзённа ўдзельнічалі ў св. Імшы ў парафіяльным касцёле, а таксама цікава і весела праводзілі час.

## Выпускнікі катэхетычных курсаў у Гродне атрымалі дыпломы

***Урачыстай св. Імшой у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі завяршыўся навучальны год у навучэнцаў катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі.***



Св. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх звярнуў увагу студэнтаў на тое, што кожнага з іх паклікаў Езус. “Вы выйшлі насустрач Хрысту, каб паглыбляць свае веды, спазнаваць Бога рознабакова. Гэта павінна насыціць вашыя сэрцы, а вы павінны перадаваць тое, аб чым пачулі, іншым”, – сказаў біскуп.

9 выпускнікоў атрымалі дыпломы і біскупскае блаславенне, пасля якога сардэчна падзякавалі ўсім, хто вёў іх па шляху да пазнання Праўды.

## Адбылася VIII Парафіяда дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі

***У сёлетняй сустрэчы прыняло ўдзел амаль паўтысячы асоб з 36-ці парафій. Праграма падзеі абапіралася на антычную трыяду “Стадыён – Святыня – Тэатр”.***



У гэтым годзе Парафіяда прайшла пад дэвізам “Будзьце міласэрнымі, як Айцец ваш міласэрны” (Лк 6, 36). Распачалося мерапрыемства ўрачыстай св. Імшой пад кіраўніцтвам кс. б-па Аляксандра Кашкевіча. Затым на працягу трох дзён удзельнікі спаборнічалі ў спартыўных, мастацкіх і інтэлектуальных конкурсах. Аматары спорту мелі магчымасць стартаваць у разнастайных дысцыплінах. Кожная група прадставіла кароткую артыстычную праграму. У блоку “Тэатр” не магло не быць песенных конкурсаў, у тым ліку “Sacro Song” і “Музыка маім жыццём”. Маладыя артысты мелі магчымасць паказаць свае таленты ў пластычных конкурсах і конкурсе ведаў з гісторыі і жыцця Касцёла.

VIII Парафіяда ў Гродне ўрачыста завяршылася ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

## АНОНСЫ

# РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ

**З 11 па 14 жніўня**
ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыіў Гродне адбудуцца духоўныя практыкаванні. Міністранты і хлопцы ад 14 гадоў запрашаюцца на перажыванне хвілін цішыні, а таксама для цікавага разважання над сваім жыццёвым шляхам: “Да чаго мяне кліча Бог?”.

**Аб удзеле ў рэкалекцыях неабходна паведаміць да 1 жніўня.**
**Прыезд – 11 жніўня ў 18.00.**

*Кантактныя нумары:*
*кс. Валерый Быкоўскі (8-029) 695-24-69,*
*кс. Андрэй Лішко (8-029) 744-99-61,*
*тэлефон семінарыі (8-0152) 77-02-34.*




## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці прымаеце Вы ў гэтым годзе ўдзел у пешых пілігрымках?*




*Чарговае апытанне датычыла ўдзелу ў пілігрымках. Большасць пілігрымаў збіраецца прыняць удзел у своеасаблівых рэкалекцыях у дарозе. Некаторыя зробяць гэта некалькі разоў. У Беларусі мноства пілігрымковых месцаў, намоленых, пабласлаўленых прысутнасцю цудоўнага абраза ці фігуры.*

***Вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*У Беларусі пілігрымуе вельмі шмат людзей. Для гэтага існуе шмат спосабаў. Найбольш вядомы – пешыя паломніцтвы. Але ўсё часцей вернікі выбіраюцца веласіпедамі, аўтобусамі. Падчас пілігрымкі ў чалавека ёсць цудоўная нагода, каб перажыць своеасаблівыя рэкалекцыі ў дарозе. Асаблівым чынам хочацца запрасіць у паломніцтвы моладзь, каб выбірала дарогу да Марыі, магла перажыць час трохі інакш, чым заўсёды, у трохі іншай кампаніі.*

*Калісьці ад адной асобы я пачуў такія словы: “Як не пайду ў пілігрымку, дык гэты мой год праходзіць па-іншаму”. Таму, калі Ты яшчэ не ўдзельнічаў у пілігрымцы, варта ўжо цяпер падумаць аб гэтым, каб не змарнаваць гэты год.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца;*
**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Казімір Шыпіла, *вік. Гродна-Фара;*
– кс. Юстын Скакоўскі, *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
– кс. д-р Юзаф Казловіч, *проб. Ваўкавыск-Фара;*
– кс. кан. Марэк Бурак, *проб. Мсцібава;*
**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцехоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны-Гродна;*
**18 ліпеня 1946 г.** – кс. кан. д-р Альбін Ярашэвіч, *проб. Гродна-Фара;*
**23 ліпеня 1955 г.** – кс. Юзаф Кавальчук, *проб. Індура;*
**24 ліпеня 1963 г.** – кс. Францішак Пятровіч, *проб. Нястанішкі;*
**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар’ян Маргуж, *Слесін – праф. Гродзенскай ВДС;*
**27 ліпеня 1932 г.** – кс. Антоній Аудыцкі, *проб. Заневічы;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Юзаф Кучынскі, *проб. Усялюб;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Міхал Далецкі, *проб. Навагрудак;*
**2 жніўня 1989 г.** – кс. Рычард Вербель, *проб. Рось;*
**6 жніўня 1978 г.** – бл. Павел VI, *Папа;*
**9 жніўня 2002 г.** – кс. кан. Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Антонію Дзям’янку

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл, радасці, шчырых і верных парафіян. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена радасцю, Божай ласкай і святлом. Дзякуем за прыгожае навучанне, добрыя словы і ўсмешку для кожнага. Вы – прыклад для нас. Адорвайце нас міласэрнасцю і прабачэннем, якія паходзяць ад Бога. Няхай добры Бог спасылае на Вас свае ласкі, а Марыя Панна і святы Заступнік нястомна трымаюць у сваёй апецы.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка”*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Салабуду

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божым блаславеннем і напоўнены Яго ласкамі. Няхай Святы Дух нястомна спасылае на Вас свае дары, Маці Божая ахінае сваёй любоўю, а святы Заступнік стала апекуецца. Будзьце мужным, цярплівым і добрым, заўсёды давярайце Пану і ніколі не стамляйцеся ў абвяшчэнні Евангелля словам і прыкладам свайго жыцця. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Мы гэты дзень з радасцю сустракаем, бо ксёндз наш імя Ян мае. Гэтыя пажаданні прызначаны для Вас: шчасця, здароўя, мудрасці і поспеху ў кожны час. Няхай жыццё ў шчасці праміне, а радасць ніколі не абмінае. Божага Вам блаславення і мар здзяйснення!

*Парафіяне з Іўя*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх ласкаў ад Езуса Хрыста, здароўя на доўгія гады, мноства радасных дзён, душэўнага супакою і цішыні ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае Вас ад зла.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Іўя*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю

з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення на кожны дзень, доўгіх гадоў жыцця, здароўя, стойкасці ў святарскай працы, шчодрых Божых ласкаў, дароў Хрыста, нязгаснага запалу для абвяшчэння Божага слова, няспыннай апекі Марыі Панны, душэўнага супакою, людской зычлівасці, радасці і надзеі. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Вернікі з в. Скрсі*

### Паважанаму Ксяндзу Антонію Грэмзу

з нагоды Імянін жадаем здароўя, душэўнага супакою, шмат сіл і нястомнага запалу ў плённай душпастарскай паслузе. Дзякуем за падтрымку, дабрыню і чулае сэрца. Няхай Найсвяцейшая Маці накіроўвае Вас кожны дзень, а святы Заступнік апекуецца ў кожную хвіліну.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка”*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а праца прыносіць радасць, задавальненне і блаславёны плён. Мы жадаем Вам здароўя, супакою, сілы, стойкасці і моцнай непахіснай веры.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жалудка*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою і нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і ўсімі ласкамі, каб Вы маглі шчасліва выконваць сваю паслугу і радаваць усіх сваёй усмешкаю. Шчасці Божа!

*Сем’і Стэцкевіч і Васільевых*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці і добразычлівых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены святлом Святога Духа, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён.

*Касцёльны камітэт*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Кучынскаму

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, супакою, мудрасці і поспеху ў душпастарскай працы. Няхай Святы Дух шчодра адорыць Вас сваімі дарамі, а Маці Божая Кангрэгацкая і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай і любоўю, асвячаюць кожны дзень жыцця. Ад усяго сэрца дзякуем за працу, абвяшчэнне Божага слова, добрае адкрытае сэрца, клопат пра кожнага чалавека. Шчасці Божа!

*З павагай малітоўная група з Аўгустоўка*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, здароўя, радасці, сілы і стойкасці ў душпастарскай працы. Няхай Ваш святы Заступнік апекуецца Вамі, а Маці Божая заўсёды Вас блаславляе.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з пар. Гродна-Вішнявец*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці і зычлівасці ад людзей навокал. Шчасці Божа!

*З малітвай і павагай вернікі з капл. св. Юрыя ў Вароне*

### Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубэлю

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, супакою ў душпастарскай працы, цярплівасці і стойкасці ў духоўным выхаванні вернікаў. Няхай усемагутны Бог узнагародзіць Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая штодзённа ахінае пяшчотай, дабрынёй і блаславеннем. Няхай святы Заступнік узносіць свае малітвы за Вас да Бога, а Дух Святы шчодра адорвае сваімі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем за мудрую навуку, Божае слова, чулае добрае сэрца, цудоўны прыклад веры і чалавечнасці, нястомны клопат і адданую працу на карысць нашай парафіі.

*Ружанцовае кола з Войцішкаў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, стойкасці, шмат сіл для выканання святарскіх абавязкаў, шчодрых дароў Святога Духа і штодзённай апекі Панны Марыі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жодзішкаў*

### Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай побач будуць добразычлівыя людзі, а запал да абвяшчэння Добрай Навіны ніколі не слабне. Шчасці Божа!

*Ружа Жывога Ружанца МБ Тракельскай, Юрацішкі*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, шмат радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця. Няхай Бог адорвае Вас шматлікімі ласкамі, Найсвяцейшая Панна Марыя мае ў сваёй апецы, а святы Заступнік нястомна выпрошвае для Вас у Пана патрэбныя дары і дапамагае ў кожнай патрэбе. Няхай супакой заўсёды жыве ў Вашым сэрцы. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры: Пелагея, Міраслава, Анжэла, Леакадзія*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, заступніцтва святога апостала Паўла, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской дабрыні. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і асвячае промнямі Божай міласэрнасці кожны дзень, а Маці Божая засланяе Вас сваім плашчом ад небяспекі і ахінае мацярынскай любоўю. Вы аддаеце нам усё: свае маладыя гады, здароўе, здольнасці, сэрца, каб паяднаць і наблізіць нас да Бога. Дзякуем Вам за шчырыя малітвы, мудрасць і павучальныя казанні, прыклад набожнасці, добрае сэрца, клопат і цярплівасць да нас, за ратаванне і навяртанне нашых душ. Мы шчаслівыя і дзякуем Пану Богу за тое, што паслаў нам Вас.

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу

з нагоды Імянін перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, сталай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не гасне, а радасць несці Хрыста людзям перапаўняе Вашае сэрца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Індуры*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу

з нагоды Імянін, 17-годдзя святарскіх пасвячэнняў і 15-годдзя душпастарскай працы ў нашай парафіі жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа, шмат сіл і стойкасці ў працы, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, шчодрага плёну на ніве Пана і моцнага здароўя, каб Вы як мага даўжэй маглі цешыць нас сваёй прысутнасцю і паслугай.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

### Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, цярплівасці ў душпастарскай працы, супакою, Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай добры Бог, які паклікаў Цябе да святарства, дапамагае ў жыцці і ў працы. Просім, каб Пан Езус і Маці Божая былі заўсёды побач з Табою. Дзякуем за ахвярную працу і добрае шчырае сэрца.

*Удзячныя парафіяне з касц. свв. Пятра і Паўла ў Іўі*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай усемагутны Бог шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая і святы Заступнік апекуюцца ў кожную хвіліну і нястомна спадарожнічаюць у жыцці.

*Парафіяне з Гожы*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Зноску

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні здароўя і дабра, мудрасці і цярплівасці. Няхай добры Бог блаславіць Цябе і адорыць сваёю ласкай, каб цвёрда ішоў па святарскім шляху служэння Богу і людзям, а Маці Божая няхай няспынна Табою апекуецца.

*З малітвай і павагай бацькі і сястра з сям’ёй*

### Паважанаму Ксяндзу Пятру Марцінцу

з нагоды Імянін жадаем шмат Божых ласкаў, дароў Святога Духа і сталай апекі святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, супакоем і Божай любоўю. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Азёраў*

### Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у святарскай паслузе, дастатку і росквіту. Мы дзякуем Вам за адкрытае сэрца, разуменне, дапамогу і ўвагу да кожнага з нас. Няхай усемагутны Бог адорыць Вас сваім блаславеннем і ўзмоцніць на шляху служэння Яму і людзям.

*Вернікі з Аўгустоўка*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, поспехаў на кожны дзень святарскай паслугі, сіл і стойкасці, каб ісці дарогай Хрыстовага паклікання, усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з касц. Божай Міласэрнасці, Гродна*

### Шаноўным Сёстрам Юліце Пятровай, Паўле Радзівілка, Апалоніі Ганьчыц, Ганне Выдры, Зоф’і Раманчук і Спадару Станіславу Раманчуку

з нагоды Дня нараджэння, а таксама ўсім Янам у Дзень імянін ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, моцнай непахіснай веры і надзеі, а таксама Божага блаславення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Вас заўсёды абмінае смутак, і жыццё праходзіць у радасці. Шчасці Божа!

*Апостальства “Маргарытка”, колы Жывога Ружанца, ІІІ Ордэн св. Францішка і вернікі з пар. Тэалін*

### Шаноўнай Сястры Гарэцці Мількевіч

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святой Заступніцы, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама добразычлівых людзей навокал. Няхай добры Бог блаславіць Вас і ўзнагароджвае за дабрыню і вялікае сэрца.

*ІІІ Ордэн св. Францішка, колы Жывога Ружанца і вернікі з пар. Тэалін*

### Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту

з нагоды 10-годдзя душпастарскай паслугі ў нашай парафіі перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці, моцнай веры, надзеі, а таксама добразычлівасці і павагі ад людзей. Няхай Бог, які ўказаў Вам шлях да святарства, дапамагае ў рэалізацыі паклікання, у абвяшчэнні Божага слова і ў пашырэнні Божага Валадарства на зямлі.

*Парафіяне з касц. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу

з нагоды Імянін жадаем здароўя і шчасця, поспехаў у душпастарскай працы, здзяйснення ўсіх мар, задавальнення і радасці ад выконваемай паслугі. Мы шчыра дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, мудрыя і павучальныя казанні, прыклад моцнай веры, за цярплівасць і ахвярную працу ў нашай парафіі. Няхай Хрыстос прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць блаславеннем і здароўем, а наша супольная малітва ўзнясецца да неба і будзе ўдзячнасцю нашага Касцёла за Вас – ксяндза, якога нам паслаў Бог. Аддзяч, Божа, бацькам за сына святара!

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне з Наваельні*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку

з нагоды Імянін перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Панны Марыі, доўгіх гадоў жыцця, добрага здароўя, цярплівасці, сілы і стойкасці, душэўнага супакою, усіх Божых ласкаў і добрых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гожы*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, штодзённай радасці і 100 гадоў жыцця, душэўнага супакою, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, усіх Божых ласкаў і сілы для выканання штодзённых душпастарскіх абавязкаў. Шчасці Божа!

*Катэдральная моладзь*

### Паважаным Ксяндзам Паўлу Безляповічу і Паўлу Скубу

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў і Яго блаславення на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа і багатага плёну на ніве Пана.

*Катэдральная моладзь*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Радзюку

з нагоды Імянін прагнем скласці пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Будзьце святаром паводле сэрца Езуса, мудрым і святым. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае пераадолець усе цяжкасці, а Божае слова, якое засейваце ў нашых сэрцах, няхай выдасць старазовы плён.

*Удзячныя вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

### Паважаным Ксяндзам Паўлу Урбану, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Гардзейчыку, Паўлу Раманоўскаму і Паўлу Барысевічу

ў Дзень імянін жадаем моцы Святога Духа, радасці, што плыве з паклікання, здароўя і мноства шчаслівых і радасных дзён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе Вас да свайго сэрца і дапамагае пераадольваць цяжкія хвіліны.

*Вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

працяг на с. 8

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка на працягу ўсяго жыцця. Няхай кожны дзень Вашай святарскай працы прыносіць шчодры плён, радасць і задавальненне, а побач будуць шчырыя і добразычлівыя людзі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

ў Дзень святога Заступніка жадаем здароўя, радасці, Божага блаславення, а таксама рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, Божая ласка і апека Маці Божай Кангрэгацкай.

*З малітвай Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавэцкаму**

ў Дзень імянін перасылаем букет найлепшых кветак і малітоўны вянок, сплецены з нашых удзячных сэрцаў. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом шлях, які Вы выбралі, Маці Божая адорвае сваімі ласкамі, а Анёл-ахоўнік мае ў сваёй апецы. Дзякуем за тое, што Вы ёсць, і гарантуем сваю далейшую малітоўную памяць.

*Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Айцу Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у душпастарскай паслузе. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, блаславляе Вас у кожны дзень жыцця, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды, а святы Заступнік абараняе ў розных складаных сітуацыях.

*Вернікі з пар. Шылавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, шчасця, радасці, сталай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама святла Святога Духа на кожны дзень душпастарскай паслугі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Струбніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя і душэўнага супакою. Жадаем, каб кожны дзень суправаджаўся Божай радасцю і быў больш маляўнічым, чым папярэдні. Няхай будзе шмат прычын усміхацца, таму што Ваша ўсмешка робіць гэты свет лепшым. Жадаем шмат сіл у паўсядзённай душпастарскай працы і плённага супрацоўніцтва з Духам Святым, моцнай веры і блізкасці з Езусам. Толькі ад Яго ідзе шчырае шчасце і любоў, якімі Вы дзеліцеся з усімі, хто знаходзіцца побач. Дзякуй Богу за Вас, за Вашае добрае сэрца і клопат аб парафіянах і святыні. Няхай Бог усемагутны блаславіць Вас, а Маці Божая Кангрэгацкая і святы Заступнік ахоўваюць і дапамагаюць.

*З малітвай Апостальства "Маргарытка" з пар. св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Безляповічу і Паўлу Скубу**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат Божай дабрыні, радасці ў сэрцы ад кожнай хвіліны пастарскага служэння, моцнай і сталай веры. Хай Маці Божая Кангрэгацкая акружае Вас сваёй любоўю і спадарожнічае на шляху да Хрыста, а святы Заступнік апекуецца Вамі кожны дзень. Дзякуем за прыклад глыбокай веры. Няхай Пан захоўвае Вас ад бед.

*З малітвай Апостальства "Маргарытка" з пар. св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шаньчуку і Паўлу Урбану**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, поспехаў, стойкасці на нялёгкім святарскім шляху, радасці і добразычлівых людзей побач, Божага блаславення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа і няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці Божай Шкаплернай. Няхай святы Заступнік абараняе Вас ад усіх бед і няўдач.

*З малітвай Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец Вас блаславляе, Езус Хрыстус дапамагае быць верным і святым святаром, Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, а Марыя, Маці святароў, па-мацярынску Вамі апекуецца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крупава і Валдацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Юбілею ад шчырага сэрца жадаем Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, побач будуць зычлівыя людзі, а ў сэрцы жыве радасць, дабрыня, любоў і надзея. Няхай Маці Божая Яснагорская заўсёды Вамі апекуецца, Анёл-ахоўнік чувае над Вамі, а побач будуць людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу ў цяжкія хвіліны. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытае сэрца і адданую працу на карысць Богу і людзям. Мы ўдзячны Вам за тое, што Вы з намі і для нас, за клопат аб нашай святыні і цудоўныя разважанні Божага слова.

*Парафіяне з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Юбілею перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а Ваша сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*Парафіяне з Навасёлкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай у гэты радасны дзень Айцец блаславляе Вас, Маці Божая, Заступніца святароў, адорвае ўсімі ласкамі і прытуляе да свайго сэрца, а Езус Хрыстус шчыра дапамагае на святарскім шляху. Любіце і служыце сваёй парафіі, Богу і вернікам, а яны заўсёды будуць з удзячнасцю маліцца за Вас.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, блаславення, шмат радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскага служэння, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Ян Хрысціцель апекуецца Вамі і выпрошвае ў Бога неабходныя ласкі.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Марцінцу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў. Няхай усё задуманае здзяйсняецца, радасць і супакой заўсёды госцяць у сэрцы, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл і стойкасці ў душпастарскай паслузе і нязгаснага запалу да абвяшчэння Божага Евангелля.

*Парафіяне з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, радасці і мноства Божых ласкаў. Няхай духоўная і жыццёвая мудрасць будзе Вашым найлепшым скарбам, святы Заступнік дадае моцы і разважлівасці, каб Вы маглі яднаць людзей, а Найсвяцейшая Маці дадасць надзеі, што пасля цяжкай хвіліны надыходзіць добры дзень.

*Ружанцовыя колы МБ Кангрэгацкай і МБ Каралевы Супакою з пар. Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Мы ўдзячны Богу за тое, што Ён даў нам святара, які нясе людзям Божае слова, святло, надзею і радасць. Дзякуем за малітву, чулае адкрытае сэрца, адданую службу міласэрнаму Богу і людзям. 100 гадоў! Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Салтанішкі, пар. Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін дасылаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай шлях, абраны для Вас Богам, заўсёды будзе асвечаны Найсвяцейшай Маці. Няхай добры Езус трымае Вас ля свайго сэрца і адорвае блаславеннем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою, дабрыні, радасці і цеплыні. Мы ўдзячныя Богу за Вашае добрае сэрца, за клопат аб нашай святыні, увагу і чуласць.

*З павагай "Легіён Марыі" з пар. Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Калесніку**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, душэўнага супакою і радасці ад паклікання. Няхай святы Заступнік нястомна чувае над Вамі, а побач заўсёды будуць добрыя людзі. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Андрэеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў, добразычлівых людзей і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая і святы Заступнік апекуюцца Вамі кожны дзень, а ўсемагутны Бог адорвае доўгім жыццём у здароўі і заўсёды падтрымлівае ў цяжкія хвіліны.

*Вернікі з пар. Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні. Жадаем здароўя і дабра, мудрасці і цярплівасці. Няхай добры Бог блаславіць Вас на шляху служэння Яму і людзям, а Маці Божая няспынна Вамі апекуецца. Дзякуем за Божае слова, шчырыя павучальныя казанні, добры настрой, прыязнасць да людзей, любоў да Бога і нас, вернікаў. Дзякуем таксама Богу і бацькам за Вас.

*Удзячныя парафіяне з касц. свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Імянін складаем букет віншаванняў. Ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, радасці ад паклікання. Няхай стойкасць і супакой заўсёды Вам спадарожнічаюць, а Маці святароў апекуецца Вамі з цеплынёй і любоўю, нясе нашыя сумесныя малітвы да Найсвяцейшага Сэрца Езуса і дапамагае выконваць волю Айца. Дзякуем за мудрае і добрае слова, цудоўны прыклад веры, адданую працу на карысць нашай парафіі. Аддзяч, Божа!

*Парафіяне з касц. свсв. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Твой жыццёвы шлях будзе доўгім, светлым і радасным. Няхай на ім будуць добрыя людзі, якія змогуць заўсёды падтрымаць, а Твая шчырая малітва і мудрыя павучальныя казанні пранікаюць глыбока ў душы і радуюць людскія сэрцы. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды дапамагае Табе ў жыцці. Мы вельмі Цябе любім і памятаем у сваіх малітвах.

*З павагай бацькі, брат з сям'ёй і бабулі*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады і моцнай веры ў Бога. Няхай агеньчык Святога Духа, што ззяе ў Вашым сэрцы, ніколі не слабее. Няхай добры Езус дапамагае ў працы, а Маці Божая Вострабрамская атуляе сваім плашчом. Дзякуем за малітвы і Божае слова, за міласэрнасць да людзей.

*З павагай парафіяне з капл. МБ Вострабрамскай, Урцішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Маці Божай і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа і добразычлівых людзей побач.

*З памяццю Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з пар. МБ Ружанцовай у Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя шчырыя пажаданні моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, штодзённай радасці і поспехаў у святарскай працы. Няхай Бог Айцец дадае Вам сіл, Святы Дух надзяляе радасцю і супакоем, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, нястомна апекуецца і абараняе ад зла. Дзякуем за чуласць і дабрыню. Мы памятаем пра Вас у малітвах. Няхай Вас нястомна аберагае святы Заступнік. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з пар. МБ Ружанцовай у Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, неабходных сіл для рэалізацыі намераў, аптымізму і як мага больш адкрытых, шчырых сэрцаў на жыццёвым шляху. Няхай няшчасце абыходзіць Вас, а радасць і супакой госцяць у Вашым сэрцы.

*"Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі" з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем радасных дзён у душпастарскай працы, шмат сіл, моцнай веры і Божага блаславення. Няхай мары здзяйсняюцца, усмешка ўпрыгожвае твар, а побач будуць добрыя людзі. Няхай праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён, Анёл-ахоўнік дапамагае ў нялёгкай паслузе, а Бог шчыра аддзячыць бацькам за сына святара.

*"Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі" з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Абухоўскаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на Божай ніве, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень.

*Вернікі з в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолію Захарэўскаму**

з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення на кожны дзень, няспыннай апекі Панны Марыі і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай паслугі, стойкасці і моцы на нялёгкім святарскім шляху.

*Верныя парафіяне з Міхалішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, радасці, моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Божая Маці няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за Божае слова, добрае сэрца і клопат пра нас і касцёл.

*Парафіяльная рада, Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

з нагоды Імянін ад усёй душы жадаем здароўя, шчасця, моцнай веры, мноства новых ідэй і задумак, радасці ад кожнай пражытай хвіліны, любові і павагі ад акружаючых. Няхай Бог умацоўвае Вас сваёю сілай, Божая Маці ахінае апекай, а святы Заступнік дапамагае ва ўсіх патрэбах.

*Парафіяне з Рэплі*

**Выказваем свае сардэчныя спачуванні і словы хрысціянскай падтрымкі сям'і св. п. Ірэны Сіліневіч, шматгадовай працаўніцы Гродзенскай курыі. Няхай міласэрны Бог прыме яе ў сваё Валадарства.**

*Рэдакцыя "Слова Жыцця" і працаўнікі курыі*

**Дарагія Чытачы!**

**У сувязі з водпускам чарговы нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 14 жніўня.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3152; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная